БЕЛАРУСКАЯ МАЛАДЗЁЖНАЯ ГАЗЕТА



# ЧЫРВОНАЯ ЧЗ ЗМЕНА

7 ліпеня 1994 г.
Чацвер
№ 73 (13790)
Кошт у розніцу 100 рублёў
Выдаецца з 1921 года

У НУМАРЫ:



*Малюе Віктар ДУБОВІК*






*Купальская ноч*

Фота Сяргея БРУШКО.

## Кур'ер "ЧЗ"

### Прэс–канферэнцыя спікера

*У Вярхоўным Савеце Рэспублікі Беларусь прайшла прэс–канферэнцыя спікера парламента Мечаслава Грыба, на якой ішла размова аб выніках святкавання 50–й гадавіны з дня вызвалення Беларусі ад фашысцкіх захопнікаў.*

Мечаслаў Грыб выказаў глыбокую і шчырую падзяку ветэранам, арганізатарам і гасцям святочных мерапрыемстваў за падораныя дні любві і пашаны, з'яднаўшыя беларускі народ.

Пад час святкавання адбыліся сустрэчы і перамовы з кіраўнікамі многіх дэлегацый, прыбыўшых у Мінск.

Спікер парламента адказаў на шэраг пытанняў журналістаў. У прыватнасці, наконт інцыдэнту на праспекце Ф.Скарыны, калі калону БНФ не прапусцілі да плошчы Перамогі, Мечаслаў Іванавіч засяродзіў асаблівую ўвагу, падкрэсліўшы: пракуратура разбярэцца ў гэтым здарэнні і расставіць усе кропкі над "і". Сам Мечаслаў Грыб адназначна асудзіў такія паводзіны часткі дэманстрантаў, бо права ўскласці вянкі да святога агню, безумоўна, маюць усе. Многія пытанні тычыліся канкрэтных тэрмінаў склікання сесіі ВС. Сесія ў любым выпадку (маецца на ўвазе — пры любым зыходзе другога тура прэзідэнцкіх выбараў) збярэцца на пасяджэнні, аднак, падкрэсліў М.Грыб, дата склікання пакуль не абмяркоўвалася на прэзідыуме.

**Якаў ЯСЭПКІН.**

### Дарагі прэзідэнт

*Правядзенне другога тура галасавання абыдзецца бюджэту рэспублікі ў 15,9 мільярда рублёў. Менавіта такая сума неабходна для друкавання бюлетэняў, дакументацыі, аплаты работы членаў камісій і многага іншага, што прама звязана з выбарамі першага прэзідэнта рэспублікі.*

Як паведамілі ў Цэнтрвыбаркаме, на арганізацыю першага тура галасавання патрачана 48 мільярдаў рублёў, прычым гэта сума не ўключае грошы, выдзеленыя кандыдатам у прэзідэнты на правядзенне агітацыйнай кампаніі.

### Байкатаваць ці не байкатаваць?

*Многія суполкі Беларускага народнага фронту напярэдадні другога тура галасавання вырашылі паступіць насуперак заклікам свайго лідэра Зянона Пазьняка і не маюць намер байкатаваць выбары.*

У большасці раённых цэнтраў рэспублікі яны зноў паведамілі выбарчым камісіям, што збіраюцца прысутнічаць на ўчастках 10 ліпеня ў якасці грамадскіх наглядальнікаў. Ход першага этапу галасавання паказаў, што прадстаўнікі грамадскіх аб'яднанняў унеслі ў работу камісій больш арганізаванасці і перашкаджалі ажыццяўленню маніпуляцый з бюлетэнямі.

**БЕЛІНФАРМ.**

### Узбройваемся?

*На нядаўняй калегіі абласной пракуратуры ў Віцебску адзначана: сітуацыя з наяўнасцю зброі ў грамадзян робіцца ўсё больш небяспечнай.*

Толькі за апошні час выяўлена больш як 500 грамадзян, што мелі незарэгістраваную агнястрэльную зброю: пісталеты, абрэзы, ружжы. Некаторыя імкнуцца разбагацець на смертаносных "цацках". Так, рабочы ВА "Віцебскдрэў" В.Борманаў, карыстаючыся бескантрольнасцю з боку кіраўніцтва механічнага цэха, вырабіў вінтоўку, з якой разгульваў у нецвярозым стане. Другі "спец", А.Рагачоў, не толькі вырабіў 14 рэвальвераў, але і паспяхова прадаваў іх па 200 даляраў за адзінку.

**Яўгенія ВІЦЬБА.**

### Згода патрэбна не толькі палітыкам

*Вялікія плошчы ворыва і сельгасугоддзяў пацярпелі ў Лельчыцкім раёне ад выкідаў радыеактыўных рэчываў на ЧАЭС. Каб забруджаныя прадукты харчавання не траплялі на стол насельніцтва, толькі ў гарпасёлку дзейнічае восем дзяржаўных і ведамасных лабараторый, а таксама 22 мясцовыя цэнтры радыелагічнага кантролю ў вёсках.*

Да прыкладу, летась у раёне абследавана звыш 36 тысяч проб прадуктаў харчавання і дароў лесу. Найбольшае перавышэнне выяўлена ў жывёлагадоўчай прадукцыі з уласных падворкаў, у тым ліку каля 22 працэнтаў малака. Ды добрай справе, як заўсёды, бракуе ўзгодненасці. Райцэнтр гігіены і эпідэміялогіі і ўпраўленне райсельгасхарчу, якія вядуць кантроль за прадуктамі харчавання, працуючы паасобку, наогул абышлі ўвагай 21 населены пункт. Прычым нават вёскі, дзе забруджанасць перавышае 5 кюры на квадратны кіламетр. У сувязі з гэтым выканкам райсавета выказаў недавер галоўнаму ўрачу санслужбы А.Канцавому.

**Алесь ЛАРЫЁНАЎ.**

### Бальніца вокнамі ў заўтра

*Лячэбна–дыягнастычны цэнтр па малаінвазіўнай хірургіі ствараецца пры Віцебскай абласной бальніцы. У верасні мяркуецца запусціць яго ў эксплуатацыю. Малаінвазіўную хірургію называюць яшчэ хірургіяй XXI стагоддзя. Гэта будзе ці не першы падобны цэнтр у рэспубліцы.*

Прыемна, што медыцына экстра-класа прыходзіць нарэшце і ў "глыбінку", і не трэба будзе нашым медыкам ездзіць на вучобу ў Маскву.

**Уладзімір МІХНО.**

### "Брыганціна" падымае парусы

*Без традыцыйных важатых абышліся гэтым летам у "Брыганціне" — лагеры для адпачынку школьнікаў, які размешчаны пад Радашковічамі. Практычна паўгода спецыялісты цэнтраў сацыяльнай адаптацыі моладзі Францыі і Германіі рыхтавалі для работы з дзецьмі тутэйшых выхавальнікаў.*

Чым жа адрозніваецца адпачынак тут ад канікулаў у звычайным лагеры? У "Брыганціне" зусім адмовіліся ад прывычных для лагернага жыцця барабанаў, трубы, хаджэння строем, нават зарадкі. Замест усяго гэтага дзецям прадаставілі поўную свабоду дзеянняў, каб яны, магчыма, упершыню без панукванняў і каманд максімальна раскрылі свае здольнасці. Дарэчы, менавіта так і працуюць з дзецьмі ў Заходняй Еўропе.

**БЕЛІНФАРМ.**

### Стой, хто ляціць?

*Тыдзень курсанты факультэта ўнутраных войск пры Мінскім вышэйшым ваенным камандным вучылішчы практыкаваліся ў войсках: вывучалі асаблівасці аховы выпраўленча–працоўных устаноў і ваеннай базы МУС.*

Вартаўнічая служба ва ўнутраных войсках адрозніваецца ад армейскай. Яна больш складаная і небяспечная, таму што ў любы момант магчымы ўцёк ці іншыя інцыдэнты. Наша аддзяленне трапіла ў Магілёўскую брыгаду. Ноччу сістэма абароны пастаянна трымала нас у напружанні. Пасля кожнага сігналу трывогі курсанты падымаліся "ў ружжо". На пільнасць нас правяралі... птушкі і кошкі.

**Вадзім ДРАЗДОЎ, курсант факультэта ўнутраных войск МВВКВ.**

### "Валютная" магнітола

*Жыхар Маладзечна М. купіў у Літве карэйскую магнітолу для свайго "Жыгулёнка". Прывёз, праверыў — ні гуку. Разам з сябрам знялі пломбу і крышку, а пад ёю знайшлі... 210 даляраў.*

Выпадкова валюта ў магнітоле апынуцца не магла. Хутчэй за ўсё, даляры схавалі ад мытнікаў турысты.

**Мікола КАПЫЛОВІЧ.**

### Курсы валют на 6 ліпеня:

| | Даляр ЗША | | Ням. марка | |
|---|---|---|---|---|
| | Скупка | Продаж | Скупка | Продаж |
| "Комплекс" | 24840 | 25600 | 15450 | 16000 |
| "Белзнешэканамбанк" | 24900 | 25450 | 15585 | 15930 |
| "Белбізнесбанк" | 24900 | 25600 | 15100 | 16000 |

ВЫБАРЧЫ МАРАФОН

# У адпаведнасці з Законам...

## Адказы на пытанні выбаршчыкаў

*Сакратар Цэнтральнай камісіі па выбарах прэзідэнта Рэспублікі Беларусь І.В.ЛІХАЧ дае растлумачэнні на некаторыя найбольш характэрныя пытанні, што датычаць другога тура галасавання.*

**— Чаму праводзіцца другі тур галасавання?**

— Як вядома, на выбарах 23 чэрвеня гэтага года ў бюлетэні было ўключана шэсць кандыдатаў у прэзідэнты Рэспублікі Беларусь. Ні адзін з іх не набраў неабходнай колькасці галасоў. У сувязі з гэтым Цэнтральная камісія на падставе артыкула 36 Закона аб выбарах прэзідэнта Рэспублікі Беларусь прыняла рашэнне аб правядзенні другога тура галасавання па двух кандыдатах, якія атрымалі найбольшую колькасць галасоў выбаршчыкаў.

У бюлетэні для галасавання, якое адбудзецца ў нядзелю 10 ліпеня 1994 года, уключаны дзве кандыдатуры — Кебіча Вячаслава Францавіча і Лукашэнкі Аляксандра Рыгоравіча, якія набралі ў папярэднім туры адпаведна 17,33 і 44,82 працэнта галасоў выбаршчыкаў.

**— Якія асаблівасці пры правядзенні другога тура галасавання?**

— У адпаведнасці з пастановай Цэнтральнай камісіі па выбарах прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 30 чэрвеня 1994 года, галасаванне 10 ліпеня, як і ў першым туры, праводзіцца тымі ж камісіямі і на тых жа ўчастках з 7 да 22 гадзін. Пры гэтым трэба падкрэсліць, што галасаванне праводзіцца па ранейшых спісах і з захаваннем усіх патрабаванняў Закона аб выбарах прэзідэнта.

У спісы выбаршчыкаў, па якіх праводзілася галасаванне 23 чэрвеня, было ўнесена 7476586 грамадзян Рэспублікі Беларусь, якія маюць права голасу. Пры паўторным галасаванні дапускаюцца толькі нязначныя змяненні. Калі, скажам, было памылкова прапушчана або ўнесена прозвішча выбаршчыка, участковая камісія сваім рашэннем можа выправіць такую памылку. У выпадку, калі камісія па тых ці іншых прычынах не прымае такога рашэння, грамадзянінам могуць быць абскарджаны яе дзеянні ў раённым (гарадскім) судзе.

Каб можна было лічыць, што выбары адбыліся, у іх павінны прыняць удзел больш як палова ўнесеных у спісы грамадзян. А прэзідэнтам будзе выбраны той, хто набярэ больш паловы галасоў грамадзян, прыняўшых удзел у галасаванні.

**— Ці прадугледжваецца датэрміновае галасаванне?**

— Не, датэрміновае галасаванне не праводзіцца. Гэта не прадугледжана законам і, напэўна, таму, што такую працэдуру практычна нельга ажыццявіць перш за ўсё з-за абмежаванасці ў часе. Друкаванне бюлетэняў і дастаўка іх на месцы патрабуе значнага часу, а галасаванне павінна праводзіцца не пазней чым у двухтыднёвы тэрмін пасля падвядзення вынікаў першага тура выбараў.

**— Які бюлетэнь лічыцца несапраўдным?**

— Бюлетэнь, у якім пакінуты прозвішчы ободвух кандыдатаў у прэзідэнты, і бюлетэнь нявызначанага ўзору. Калі будуць выяўлены ў скрынках для галасавання бюлетэні нявызначанага ўзору, то па рашэнню камісіі іх трэба накіроўваць у органы пракуратуры для расследавання дадзенага факта. Каб пазбегнуць падробкі, на адваротнай старонцы кожнага бюлетэня, які выдаецца выбаршчыку, павінна быць спецыяльная адзнака — подпісы не менш як двух членаў участковай камісіі. На гэтыя абставіны мы звяртаем асаблівую ўвагу.

Калі ў бюлетэні будуць выкраслены прозвішчы абодвух кандыдатаў у прэзідэнты, то бюлетэнь сапраўдны. Гэта азначае, што грамадзянін галасаваў супраць і аднаго і другога кандыдата.

**— Ці дапускаецца галасаванне аднаго выбаршчыка за другога і асабліва, напрыклад, сваякоў, — мужа за жонку, сына за маці і іншыя?**

— І ранейшым выбарчым заканадаўствам такое ніколі не дазвалялася. На жаль, выпадкі такія маглі мець месца. Зараз жа пры атрыманні бюлетэня грамадзянін прад'яўляе пашпарт або іншы дакумент, які засведчвае асобу, і распісваецца ў спісе грамадзян, якія маюць права прымаць удзел у выбарах. Законам асабліва падкрэсліваецца, што выбаршчык павінен асабіста зрабіць свой выбар, галасаванне за іншых асоб не дапускаецца.

**— Ці могуць прыняць удзел у галасаванні студэнты, якія выехалі на канікулы і адпускнікі, што адпачываюць далёка ад месца пражывання?**

— Паўтаруся, у спіс выбаршчыкаў адпаведна закону ўключаюцца грамадзяне, пастаянна або часова пражываючыя на тэрыторыі ўчастка менавіта на момант складання спісаў. У дадзеным выпадку — не пазней 7 чэрвеня. Гэта значыць, прагаласаваць яны могуць, але толькі там, на тым участку, дзе былі ўнесены ў спісы выбаршчыкаў.

**— Ці могуць быць на ўчастках і камісіях прадстаўнікі палітычных партый і грамадскіх аб'яднанняў, працоўных калектываў, выбаршчыкаў, журналісты?**

— Такая магчымасць захоўваецца. Прысутнасць прадстаўнікоў не толькі пажадана, але і неабходна, гэта садзейнічае захоўванню закона і ўмацоўвае давер выбаршчыкаў да вынікаў выбараў. Патрэбна мець на ўвазе, што калі тэрмін паўнамоцтва прадстаўнікоў палітычных партый, грамадскіх аб'яднанняў і інш. абмяжоўваўся 23 чэрвеня, ім неабходна прадоўжыць тэрмін сапраўднасці дакументаў або накіраваць на ўчасткі і ў камісіі новых прадстаўнікоў.

**— Ці будзе арганізавана галасаванне па месцы знаходжання тых грамадзян, якія не могуць прыбыць на ўчастак па стану здароўя або па іншых прычынах?**

— У выпадку, калі асобныя выбаршчыкі па стану здароўя або па ўважлівых прычынах не могуць прыбыць у памяшканне для галасавання, участковая камісія па просьбе грамадзян, і па загадзя складзеных спісах арганізуе галасаванне па месцы знаходжання гэтых грамадзян. Але трэба заўважыць, што нельга ператвараць гэта галасаванне ў збіранне галасоў грамадзян, якія не прасілі ўчастковую камісію прыбыць да іх і не ўнесены ў папярэдні спіс. Бо гэта не будзе адпавядаць закону.

Пры выездзе для арганізацыі галасавання дома павінна быць не менш як два члены камісіі, маюць права таксама прысутнічаць прадстаўнікі палітычных партый, грамадскіх аб'яднанняў, калектываў выбаршчыкаў.






## ДЗЕВЯТАЕ НЕБА



Дзяжурныя па выпуску перакладчыкі Людміла КАХАВЕЦ, Віктар КАПАЧЭЛЬ, рэдактар Якаў ЯСЭПКІН.

## "Еўраньюс"

### ПАВОДКА Ў ДЖОРДЖЫІ

*У выніку моцных дажджоў у штаце Джорджыя (ЗША) затоплена многа вёсак.*

Загінула шэсць чалавек. Мясцовыя ўлады займаюцца эвакуацыяй насельніцтва.

### ЗАЯЎЛЕНА АБ ПЕРАМІР'І

*Паўстанцы з Патрыятычнага фронту Руанды заявілі аб перамір'і з урадавымі войскамі.*

Яны атрымалі звесткі аб тым, што ў бліжэйшыя дні будзе прызначаны новы ўрад. Заяўлена таксама аб пагрозе з боку французскіх войскаў. Францыя тым часам паведаміла аб устанаўленні на паўднёвым захадзе Руанды зоны бяспекі для бежанцаў. Удзел Францыі ў руандзійскай вайне становіцца ўсё больш відавочным.

## "Суперчэннэл"

### КУДЫ БЕГЧЫ?

*Злучаныя Штаты больш не жадаюць прымаць бежанцаў з Гаіці.*

Паток іх не спыняецца, на лодках уцекачы ад палітычных рэпрэсій накіроўваюцца ў ЗША. Усіх іх адсылаюць у Панаму. Афіцыйныя крыніцы ў Злучаных Штатах сцвярджаюць, што ўцекачы з Гаіці больш не будуць атрымліваць у Амерыцы статус палітычных бежанцаў.

### У ЙЕМЕНЕ БЕЗ ПЕРАМЕН

*Войскі з Паўднёвага Йемена накіроўваюцца да горада Адэн.*

Ажыццёўлены яшчэ адзін паветраны налёт на горад, у выніку чаго загінула 12 чалавек, 15— паранены, сярод ахвяр многа дзяцей. У Адэне паніка, горад застаўся без асноўных камунікацый, у дэфіцыце пітная вада.

### КАНТАКТНАЯ ГРУПА ПРЫМАЕ РАШЭННЕ

*У Жэневе завяршылася сустрэча прадстаўнікоў так званай Баснійскай кантактнай групы, куды ўваходзяць Германія, Францыя, Англія, Расія, ЗША і Іспанія.*

Заяўлена аб адзінстве ў поглядах на падзел баснійскай тэрыторыі. Харваты павінны атрымаць 51, а сербы — 49 працэнтаў ад яе. Калі бакі не пагодзяцца з гэтым рашэннем, кантактная група мае намер увесці свае войскі ў Боснію, каб уладкаваць канфлікт.

*(Працяг на 3-й стар.).*

ПАВЕДАМЛЕННІ, АТРЫМАНЫЯ ПА КАНАЛАХ СПАДАРОЖНІКАВАЙ СУВЯЗІ "ЧЫРВОНАЙ ЗМЕНЫ".

